РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 43 (7856) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 7 чэрвеня 2000 г. Цана 25 руб.

## Разгледжана на нарадзе

5 чэрвеня г.г. у райвыканкаме адбылася аператыўная нарада, у якой прынялі ўдзел кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый горада, работнікі раённага выканаўчага камітэта, упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, старшыні сельскіх Саветаў.

Старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў адзначыў, што масавая ўборка траў пачалася, але вынікі яе жадаюць быць лепшымі. Калгас "Праўда", напрыклад, разам з іншымі гаспадаркамі ўключыўся ў работу па нарыхтоўцы сена, аднак гэтага віду корму не нарыхтавана ніводнай тоны. Такое ж становішча і ў "Новым быце". У калгасе "Смолькі" ніяк не могуць запусціць прэспадборшчык. Некалькі аператыўней рыхтуюць кармы ў іншых гаспадарках. І правільна робяць. Травы выкалашваюцца, трацяць спажыўныя рэчывы. Ставіцца задача нарыхтаваць кожнай гаспадарцы па 50-100 тон якаснага сена для цялят, тады можна весці размову і аб іх захаванасці. І ўвогуле будуць кармы – будзе малако і мяса.

Міхаіл Барысаў звярнуў увагу кіраўнікоў шэфствуючых арганізацый на аказанне дапамогі калгасам у набыцці гаруча-змазачных матэрыялаў, асабліва тэхнікай, якая можа быць задзейнічана на касьбе. Ход нарыхтоўкі кармоў вырашана разглядаць у райвыканкаме праз кожныя 10 дзён.

Праяўляецца клопат у гаспадарках і аб доглядзе пасеваў. У калгасах "Прагрэс", "Новае жыццё" і іншых праведзена хімічная праполка збожжавых, унесены мінеральныя ўгнаенні. Важна ў гэтыя дні не дапусціць зарастання пустазеллем пасеваў караняплодаў, як гэта назіралася ў мінулым годзе.

Па надоях малака калгасы выйшлі на ўзровень мінулага года, аднак таварнасць застаецца нізкай. Для пасьбы жывёлы выкарыстоўваюцца не лепшыя пашы. Ёсць магчымасць для павышэння надояў -- выдзеліць дойнаму статку канцэнтраты.

Не ва ўсіх сельсаветах належным чынам арганізаваны закуп малака ў насельніцтва. Асабліва дрэнна вядзецца збор яго ў калгасах "Праўда", "Смолькі", "Бароньki", "Забычанне", "Кранштат". Заслуханы тлумачэнні старшынь Бароньkаўскага, Забычанскага, Пралетарскага сельскіх Саветаў Анатоля Баранава, Вольгі Касіцынай, Уладзіміра Лістападава, якія спасылаліся на розныя прычыны, што замінаюць весці закуп. Кіраўнікам сельсаветаў дадзена 3 дні на выпраўленне становішча.

На нарадзе закраналіся такія жыццёва важныя пытанні, як рух аўтобусаў на Відуйцы, фінансавае становішча трэста № 10 "Цэментабуд", водазабеспячэнне Бароньkаўскай участковай бальніцы і іншыя.

# У РАЙВЫКАНКАМЕ

Раённы выканаўчы камітэт разгледзеў пытанне аб недахопах у арганізацыі пашавага ўтрымання жывёлы і вытворчасці малака ў калгасах раёна. На пасяджэнне выканкама былі запрошаны кіраўнікі гаспадарак, раённых служб, работнікі райсельгасхарчу, спецыялісты, якія ўваходзяць у склад тэхналагічных груп, старшыні сельскіх Саветаў. Вёў пасяджэнне старшыня райвыканкама Міхаіл Барысаў.

Ён нагадаў, што некалькі дзён таму назад старшыні калгасаў былі папярэджаны: калі яны не прымуць эфектыўных мер па пераадоленню адставання вытворчасці малака, панясуць заслужаныя пакаранні. Як паказвае статыстыка, некаторыя гаспадаркі працягваюць мінусаваць. Таму райвыканкам вымушаны даць кадрам адпаведную ацэнку.

Райвыканкам заслухаў паведамленні першага намесніка начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Віталя Нямёнкіна, галоўнага ветурача раёна Аляксандра Судзілоўскага, дырэктараў ветлабараторыі Раісы Спраўнікавай, племстанцыі Людмілы Голікавай, спецыялістаў. Як адзначалася, у калгасе "Бароньki" на Паньбудзянскай ферме не арганізавана начная пасьба кароў. Статак пасецца на пашы, якая вырадзілася, да таго ж – бессістэмна. Паенне жывёлы не наладжана. Яна п'е балотную ваду, што забараняецца.

Забяспечваецца кругласутачная пасьба і трохразовае даенне кароў на Бароньkаўскай ферме. Аднак паша патрабуе перазалужэння. Сустрэчная касьба траў не праводзілася, таму яжа зборная перарасла і не паядаецца жывёлай.

Адзін з двух статкаў фермы пасецца далёка ад яе, на перагон трацііца шмат часу. Таму працягласць пасьбы не перавышае 10 гадзін у суткі. Набытая перасоўная дайльная ўстаноўка дагэтуль не ўключана ў работу.

Паказчыкі дзённых надояў малака, як валавы, так і ў разліку на карову, удалося выраўняць. У той жа час прадукцыя недабіраецца ў выніку дапушчанай праўленнем неарганізаванасці. Райвыканкам заслухаў тлумачэнні старшыні калгаса Андрэя Піскунова, аб'явіў яму вымову. Даручана райсельгасхарчу стварыць камісію і глыбей вывучыць становішча спраў у гаспадарцы.

У апошнія дні ў калгасе "Радзіма" атрымліваюць ад каровы па 9,2 кілаграма малака. Гэта на 400 грамаў менш, чым летась. Ніжэйшы і валавы надой. Кіраўніцтва гаспадаркі вырашыла многія пытанні па арганізацыі пасьбы і даення малочнай жывёлы. І ўсё ж добрай пашай статак не забяспечаны. У яго напярэдадні ўведзена значная колькасць цельных цялушак. Ацёлы іх і кароў позняя. Заслухана справаздача старшыні калгаса Анатоля Краўчанкі. За дапушчаныя недахопы ў арганізацыі пашавага ўтрымання малочнай жывёлы яму аб'яўлена вымова. Дадзены двухдзённы тэрмін для іх ухілення.

Крытыцы падвергнуты таксама кіраўнікі некаторых іншых гаспадарак. У іх ліку – старшыня калгаса "Новае жыццё" Аляксандр Амельчанка. Трохразовае даенне кароў не праводзіцца на ўсіх трох фермах. Два статкі Тупічынскіх ферм ўтрымліваюцца на аддаленай пашы, але перасоўныя дайльныя ўстаноўкі не набыты. Не арганізавана начная пасьба аднаго з статкаў.

Праўда, паколькі паша выкарыстоўваецца сістэмна, жывёла забяспечваецца вадой і соллю, ёсць станоўчыя вынікі. У калгасе самыя высокія валавы надой малака і надой у разліку на карову. Яны складаюць адпаведна 6520 і 12 кілаграмаў у дзень. Безумоўна, рэзервы для далейшага росту прадукцыйнасці малочнай жывёлы ёсць, і кіраўнік гаспадаркі запэўніў, што яны будуць выкарыстаны.

У райвыканкаме заслухана інфармацыя аб вядзенні малочнай галіны ў калгасах "Забычанне", "Парыжская камуна", "Праўда". Адзначана, што ў іх і іншых гаспадарках многія недаробкі ўхілены. У той жа час яшчэ не ўсё зроблена для таго, каб значна павялічыць вытворчасць малака, выйсці на мінулагодні ўзровень і забяспечыць далейшую прыбаўку. Амаль усюды трэба ствараць прадуктыўную пашу, весці сапраўдны догляд выкарыстоўваемых кармавых угоддзяў, удасканальваць работу па ўзнаўленню статка, паляпшаць кармленне жывёлы.

М. Р. Барысаў патрабаваў ад кіраўнікоў усіх калгасаў, каб яны зрабілі захады і забяспечылі значнае павышэнне дзённых надояў малака. У рацыёны жывёлы неабходна ўвесці канцэнтраты, якія завезены.

Райвыканкам абмеркаваў пытанне аб ходзе закупу малака ў насельніцтва. Як заўважыў старшыня раённага Савета дэпутатаў Мікалай Трубчык, некаторыя сельвыканкамы недастаткова працуюць у гэтым напрамку. Не ўсюды поўнасцю збіраюцца лішкі прадукцыі. Меншую, чым летась, колькасць малака закупляюць у калгасах "Праўда", імя Калініна і "Бароньki". Вiдавочна ўпушчэнні старшыні Бароньkаўскага сельскага Савета і кіраўнікоў мясцовых гаспадарак.

Прыводзіліся і іншыя факты. Старшыні сельскіх Саветаў, гаспадарнікі папярэджаны аб персанальнай адказнасці за арганізацыю закупу малака. У выпадку, калі за бліжэйшы тыдзень яны не выправяць становішча, будуць пакараны.

Выканкам заслухаў тлумачэнне старшыні Бароньkаўскага сельскага Савета Анатоля Баранава. Яму прад'яўлены прэтэнзіі за дрэннае выкананне службовых абавязкаў і злоўжыванне алкаголем. У сувязі з гэтым А. Ф. Баранаву аб'яўлена вымова. Прыняты да ведама яго запэўніванні аб тым, што ў далейшым падобныя выпадкі не паўторацца.

На гэтым пасяджэнні райвыканкама закраналіся пытанні правядзення сельскагаспадарчых работ, у тым ліку догляду пасеваў, нарыхтоўкі кармоў. Адзначалася, што хімпраполка ў калгасах раёна завяршаецца. А вось падкормка яравых зроблена менш чым на палавіне плошчы. Тым часам, у гаспадарках ёсць астаткі азотных і іншых угнаенняў. Пастаўкі мінеральных тукаў на базу ААТ "Райсельгасхімія" і ў калгасы працягваюцца. Заслуханы тлумачэнні начальніка станцыі аховы раслін Аляксандра Даўгалёва.

Упраўленню сельскай гаспадаркі і харчавання даручана прааналізаваць работу аграхімічнай службы, станцыі аховы раслін. Дадзены тыднёвы тэрмін гаспадаркам, абслугоўваючым арганізацыям для завяршэння падкормкі пасеваў.

Прапанавана ўзмацніць работы па ўборцы траў і павысіць тэмпы нарыхтоўкі сена, сенажу.



У вёсцы Прусіна калгаса "Новае жыццё" Васіля Уладзіміравіча Ільянкова ведаюць усе. І не толькі таму, што жыве ён даўно тут, а за добрыя яго справы. Ад свайго бацькі, які быў трактарыстам, навучыўся Васіль любіць зямлю. Вырас і сам вырашыў прысвяціць жыццё ёй. Стаў трактарыстам. Напачатку працаваў у сельгасхіміі. Вядома, справа Васілю Уладзіміравічу падабалася, толькі ён вырашыў свае сілы накіраваць на тое, каб у роднай гаспадарцы, дзе ён нарадзіўся, вырас, важкім быў колас. І вось ужо больш дваццаці гадоў ён — калгаснік. Як і марыў, працуе на магутным трактары. Як кажуць, без прастою шчыруе яго тэхніка на палетках. Бывала, раней, калі сын Віктар у армію збіраўся, з бацькам на трактары ў дзве змены працавалі. На К-700 Ільянковы выконвалі ў дзень па дзве нормы. Васіль Уладзіміравіч стараецца, каб і зараз трактар не ведаў прастояў. Падбярэ варыянт, каб своечасова яго адрамантаваць і запчасткі знойдзе, а раніцай зноў у дарозе. Зімою В. У. Ільянкоў падвозіў кармы да фермаў калгаса. Вясной жа быў заняты падрыхтоўкай глебы пад сяўбу яравых.

Зараз старанны механізатар займаецца падрыхтоўкай трактара і цялежкі да вельмі адказнай пары – масавай нарыхтоўкі кармоў для грамадскай жывёлы. Ён будзе перавозіць сянажную масу.

На здымку: В.У. ІЛЬЯНКОЎ.
Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.

## ЗВЕСТКІ

***аб надоях малака ў гаспадарках раёна па стану на 5 чэрвеня 2000 г.***

*Першая калонка – назвы калгасаў, другая – надоена ў 2000 г. (кг), трэцяя – атрымана ў 1999 г., чацвертая – надоена ад каровы ў 2000 г. (кг), пятая – атрымана ў 1999 г.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| "Новае жыццё" | 6520 | 6412 | 12,1 | 12,1 |
| імя К. Маркса | 5440 | 5488 | 7,1 | 7,2 |
| "Прагрэс" | 5430 | 5190 | 9,8 | 9,4 |
| "Расія" | 5072 | 5182 | 8,2 | 8,1 |
| "Пар. камуна" | 4270 | 4850 | 11,9 | 13,7 |
| "Бароньki" | 3628 | 3872 | 10,7 | 11,4 |
| "Новы быт" | 3563 | 3135 | 10,7 | 10,4 |
| "Лен. шлях" | 3152 | 3199 | 8,7 | 8,8 |
| "Кранштат" | 3005 | 3200 | 7,5 | 7,5 |
| "Радзіма" | 3000 | 3180 | 9,3 | 10,2 |
| "Смолькі" | 2960 | 2940 | 9,3 | 9,2 |
| імя Калініна | 2833 | 2560 | 8,3 | 7,5 |
| "Праўда" | 2460 | 2460 | 8,8 | 8,8 |
| "Дуброва" | 2385 | 3515 | 9,7 | 9.7 |
| "Забычанне" | 1784 | 2322 | 8,0 | 8,1 |
| **ПА РАЁНУ:** | **55502** | **57505** | **9,23** | **9,33** |

## АБ'ЯЎЛЕНЫ КОНКУРС!



Паважаныя паштальёны, начальнікі аддзяленняў паштовай сувязі!

Рэдакцыя раённай газеты "Голас Касцюкоўшчыны" аб'яўляе конкурс сярод распаўсюджвальнікаў друкаванага слова. Пераможцамі ў ім становяцца паштальёны, начальнікі паштовай сувязі, якія ахапілі падпіскай на раённую газету на другое паўгоддзе найбольшую колькасць жыхароў на абслугоўваемых участках.

**УСТАНОЎЛЕНЫ ТРЫ ПРЭМІІ ПЕРАМОЖЦАМ:**

***за першае месца – 6 тысяч рублёў;***
***за другое – 4 тысячы рублёў;***
***за трэцяе – 3 тысячы рублёў.***

***ЗАПРАШАЕМ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У КОНКУРСЕ!***

**РЭДАКЦЫЯ РАЙГАЗЕТЫ "ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ".**

# ОБЩЕСТВЕННО-ПОЛИТИЧЕСКИЙ ЦЕНТР: НОВЫЕ ФОРМЫ РАБОТЫ

Для жителей нашего района аббревиатура ОПЦ давно перестала быть чем-то загадочным. Начав свою работу с января 1999 года в выставочном зале районного краеведческого музея, общественно-политический центр сумел стать притягательным местом реализации своего досуга, творческого потенциала для многих жителей нашего района. Читатели "Голаса Касцюкоўшчыны" не один раз могли встретить на страницах районки материалы о работе ОПЦ, его структурных формирований.

С самого начала работы общественно-политического центра все люди, которые принимали участие в его создании, ставили перед собой одну цель -- предоставить возможность жителям нашего района заняться любимым делом, реализовать свои способности и творческий потенциал. С этой целью при ОПЦ в начале 1999 года были созданы общественные объединения цветоводов, книголюбов, эрудитов, спортивно-патриотический клуб "Витязь", молодежный пресс-центр. Были разработаны и приняты Уставы, программы, кодовые планы работы. В активе объединений общественно-политического центра ряд интересных мероприятий, позволивших раскрыться многим талантам нашей Костюковщины.

Общественно-политический центр стал и своеобразным центром информационной работы с населением. Здесь регулярно проводятся учебные семинары, конференции, совещания информационного актива нашего района: заместителей руководителей по информационной работе, заместителей директоров школ района по воспитательной работе, педагогов-организаторов и социальных педагогов. Активное участие в работе ОПЦ принимают и общественные организации, в частности, районная организация БПСМ, районный совет ветеранов и другие.

В ОПЦ проводятся и разнообразные выставки, полюбившиеся практически всем посетителям. В марте-мае 2000 года районным краеведческим музеем, Центром детского творчества была организована выставка детского прикладного творчества. К 55-летию Победы был организован ряд интересных мероприятий: встреча с ветеранами, фотовыставка, конкурс рисунков о войне. Летом-осенью 2000 года намечается проведение ряда интересных встреч в рамках программ ОПЦ: "Давайте познакомимся", "Молодой специалист, кто ты?", "Юбилеи известных людей" и др. Хотелось бы, чтобы в данных мероприятиях, проводимых в общественно-политическом центре, приняло участие как можно больше людей, желающих с пользой и интересно провести своё время.

В июне 2000 года планируется создание "Видео-клуба" для объединения видеолюбителей Костюковичского района. Будет приобретен блок видеокассет с новыми зарубежными и отечественными фильмами, классикой мирового кино, организован совместный просмотр и обсуждение новинок видео-проката, обмен видеокассетами. Ведь вряд ли любителей видео может удовлетворить имеющийся скудный рынок видеоуслуг в нашем районе. Организационное собрание "Видео-клуба" состоится 24 июня в 12.00 в ОПЦ (здание районного краеведческого музея, 1-й этаж). Приглашаем принять в нем участие всех поклонников видео.

Благодаря помощи районного исполнительного комитета, общественно-политический центр имеет свой книжный фонд, музыкальный центр, мебель. Созданы все условия для того, чтобы заниматься любимым делом в кругу единомышленников. В планах ОПЦ: организация интересных выставок и встреч, создание новых объединений по интересам. Мы ждем ваших предложений и инициатив по работе общественно-политического центра, расширению его деятельности. При желании вы можете вступить в любое действующее объединение ОПЦ, принять участие в создании нового. Наши контактные телефоны: 22-875 – отдел информации райисполкома; 21-681 — районный краеведческий музей; 21-694 – редакция газеты "Голас Касцюкоўшчыны". Работу ОПЦ, его структурных формирований мы будем подробно освещать в последующих выпусках районной газеты, в передачах районного радиовещания.

**Игорь КОВАЛЕВ,**
**заведующий отделом информации райисполкома.**

**У ДАШКОЛЬНЫХ УСТАНОВАХ**

## Вучацца, дзеляцца вопытам

***Работнікам дашкольных устаноў па спецыфіцы сваёй дзейнасці пастаянна прыходзіцца ўдасканальваць формы і метады работы, каб стварыць неабходныя ўмовы для развіцця, выхавання, адукацыі, умацавання здароўя дзіцяці, падрыхтоўкі яго да самастойнага жыцця ў грамадстве.***

***У сувязі з гэтым створана і працуе раённае метадычнае аб'яднанне, кіраўніком якога з'яўляецца загадчыца ясляў-сада № 7 "Вясёлка" Аліна Пузанкова. Формы работы аб'яднання розныя: "круглыя сталы", семінары-практыкумы і інш. Розным бывае і кантынгент іх: то збіраюцца на вучобу старшыя выхавальнікі, то загадчыкі і метадысты.***

***У аб'яднання свой план работы, згодна з якім яны працуюць і вучацца.***

На базе дзіцячага сада № 8 "Ручаёк" адбыўся семінар-практыкум метадычнага аб'яднання, у якім прынялі ўдзел загадчыкі дашкольных устаноў раёна і метадысты. Тэма яго: "Арганізацыя і ўтрыманне метадычнай работы ў дашкольнай установе".

Напачатку перад сабраўшыміся з пытаннем па арганізацыі працоўнага заканадаўства выступіў старшыня райкама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Аркадзь Шкробаў.

Затым аб ролі метадычнай работы ў абнаўленні зместу дашкольнай адукацыі і павышэнні кваліфікацыі кадраў расказала метадыст яслуяў-сада № 9 "Пралеска" Галіна Раманенка. Аб патрабаваннях да афармлення метадычнага кабінета і яго месцы ў выкарыстанні інавацыйных форм работы з кадрамі гаварыла метадыст дзіцячага сада № 4 "Сонейка" Святлана Асмалоўская.

"Кантроль і кіраўніцтва самаадукацыяй педагагічных кадраў" – тэма выступлення загадчыцы Пралетарскага дзіцячага сада Надзеі Багачовай.

У час практычнай часткі семінара-практыкума ўдзельнікі яго змаглі азнаёміцца ў кабінеце загадчыцы дзіцячага садка № 8 з афармленнем дакументацыі. А павучыцца і сапраўды было чаму. Нарматыўныя дакументы ёсць у кожнага кіраўніка. У Дзіны Шэўчукоўскай яны рассkладзены па адпаведных папках, кожная з якіх прыгожа афармлена. Планы, праграмы, інструкцыі і г.д. – у асобнай папцы.

Ёсць тут і папкі работы бацькоўскага камітэта, дакумент дагавору з бацькамі, адміністрацыйна-гаспадарчая дакументацыя і інш. Карацей кажучы, можна знайсці любую інфармацыю, якая вас цікавіць. "І мне, — кажа загадчыца, — не трэба выклікаць кожны раз работніка па таму ці іншаму пытанню". Метадычны кабінет хоць і невялікі, але тут таксама ўсё на сваім месцы.

Метадыст Раіса Грамчакова правяла невялікі экскурс. Адзін са стэндаў змяшчае навінкі метадычнай літаратуры, тут жа сабраны матэрыялы з вопыту работы выхавальнікаў.

Новая форма работы метадычнага кабінета – настольная газета "Педагагічны веснік", у якой асвятляецца жыццё сада: тут і весткі з груп, і вынікі дыягностык выхаванцаў, і народныя прыкметы.

Новым тут з'яўляецца і анкетаванне выхавальніц. На кожную заведзена асобная папка і інфармацыя.

Пабывалі ўдзельнікі метадычнага аб'яднання і ў медыцынскім кабінеце, дзе работнікі яго Т. Трупман і Т. Крупенька расказалі аб тым, як праводзіцца харчаванне ў санаторных групах, як арганізуюцца аздараўленчыя мерапрыемствы. Як адзначыла старшая медсястра Т. Крупенька, уся работа накіравана на тое, каб дзеці менш хварэлі. Дэталёва вядзецца ўлік захворваемасці дзяцей. Ёсць зводная дыягнастычная карта. З часта хварэючымі праводзіцца лячэбная фізкультура. І ўсё гэта зафіксавана ў дакументах, асобных папках.

Працэдурны кабінет аснашчаны неабходным інвентаром, ёсць нават суха-тлушчавы шкап, у якім апрацоўваецца медыцынскі інструмент.

Наведалі ўдзельнікі і фіта-бар, фізіятэрапеўтычны кабінет, кабінет аксігенатэрапіі.

— Усе ўмовы створаны для аздараўлення дзяцей, — заўважыла загадчыца яслуяў-сада Д. Шэўчукоўская. — Толькі вось іншы раз няма сродкаў для набыцця таго ж дражджавальнага напітку, гарбаты. Бацькі самі купляюць травы, а мы ўжо рыхтуем вітамінныя напоі. У многіх рабят захворванне шчытападобнай залозы, а мы маглі б іх прапаіць тут.

Затым усе зноў вярнуліся ў залу, дзе выхавальніцы сада, метадыст Р. Грамчакова правялі дзелавую гульню, якая складалася з некалькіх тураў, а ўвогуле зводзілася да аднаго: зносін выхавальніц з дзіцяці.

— Над праблемай зносін у нашым дзіцячым садзе, — сказала ў заключэнне Д. Шэўчукоўская, — мы працуем даўно. І сённяшняя гульня паказала, наколькі адукаваныя нашы педагогі. А такія гульні — свайго роду вучоба. Для таго мы і збіраемся разам, каб павучыцца і павучыцца.

І, вядома ж, быў падведзены вынік гэтага семінара. Як падкрэсліла загадчыца дзіцячага сада № 9 Людміла Бардоўская, тэма, узнятая на семінары-практыкуме, актуальная, карысная.

— Хаця мы і трымаем цесныя сувязі з гэтым садам, але я прыемна ўражана формай афармлення дакументацыі. Гэта твар кіраўніка. І ў метадычным кабінеце ўсё прадумана, ды і праведзеная гульня паказала, што выхавальніцы маюць вялікі багаж для зносін. А, значыць, і метадычная служба на ўзроўні.

Метадыст раённага аддзела адукацыі па дашкольнаму выхаванню Валянціна Дзянісава таксама адзначыла актуальнасць узнятага пытання. Метадысты, як яна заўважыла, пачарпнулі для сябе шмат новага, убачылі як трэба афармляць кабінеты, бо ў многіх яны не на ўзроўні.

**Валянціна ФРАЛЯНКОВА.**



**У Віктара Васільевіча Праціраева працоўны стаж каля 30 гадоў. Ён цясляр. Доўгі час працаваў у будаўнічай брыгадзе райпа. Быў занаты на будаўніцтве гандлёвых аб'ектаў. На Касцюковіцкі вытворчы ўчастак клімавіцкага лікёра-гарэлачнага завода ўладкаваўся два гады назад. Хапае і тут работы для Праціраева: то аконныя рамы трэба замяніць, то дзверы, то падлогу падрамантаваць. І з гэтай справай Віктар Васільевіч пасляхова спраўляецца. Задаволена яго работай кіраўніцтва ўчастка, паважаюць стараннага цесляра ў калектыве.**

**На здымку: В. В. ПРАЦІРАЕЎ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## Аперацыя "Кармы"

У раёне пачалася нарыхтоўка кармоў для грамадскай жывёлы. У сувязі з гэтым інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду і асабовым саставам пажарнай аварыйна-выратавальнай службы Касцюковіцкага гарнізона праводзіцца аперацыя "Кармы". Яе мэтай з'яўляецца папярэджванне загаранняў нарыхтаванага сена. Важнейшая задача – падтрыманне ў грамадзян раёна высокай адказнасці за захаванне мер пажарнай бяспекі пры нарыхтоўцы кармоў.

Асаблівая ўвага пры гэтым будзе ўдзяляцца месцам знаходжання складоў грубых кармоў, плошчы сціртаў, адлегласці ад павецяў, штабялёў сена да ліній электраперадач, дарог, збудаванняў. Да работы на складах не павінны дапускацца неабсталяваныя вогнетушыцелямі трактары і аўтамабілі. Забараняецца ставіць гэтыя транспартныя сродкі на тэрыторыі каля складоў.

Інспекцыя дзяржаўнага пажарнага нагляду звяртаецца да калгаснікаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў калгасаў з просьбай прыняць усе неабходныя меры для ліквідацыі недахопаў, якія выяўлены ў час праверкі.

**Віталь ЛУКАШЭНКА,**
**інспектар інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду пажарнай аварыйна-выратавальнай часці горада.**

**Нам пишут**

## *Наследники тимуровских традиций*

*Вот уже несколько лет в нашей школе существует хорошая традиция: навещать ветеранов, одиноких людей. Наш 9 класс подружился с ветераном Великой Отечественной войны Валентином Петровичем Островским. Каждый праздник нам приятно поздравить Валентина Петровича. Несмотря на свой пожилой возраст, ветеран веселый и добрый человек, потому нам с ним интересно.*

*Жизненные годы. Они летят неудержимой птицей. Сколько не гонишься за ней, все равно не догонишь. Кажется, еще совсем недавно был полон сил, активно участвовал в районных мероприятиях а сейчас, в свои 76 лет, он часто перелистывает странички своей жизни.*

*— Всё ли я успел сделать, что мне надлежало? — задает он себе вопрос. – Что оставляю после себя детям, внукам, да и, вообще, людям?*

*Славный путь прошел Валентин Петрович. Когда началась война, ему было всего 18 лет. Он прошел трудными фронтовыми дорогами. Сжималось сердце, когда терял дорогих друзей, обливалось оно кровью, когда видел сожженные деревни, разрушенные города, замученных людей. С большой ненавистью бил он фашистов, чтобы быстрее освободить родную землю. Не один раз был ранен. Валентин Петрович награжден орденом Великой Отечественной войны I-ой степени, орденом Красной Звезды, медалями. После ранения в 1945 году был комиссован и отправлен в тыл. Боль была на сердце ветерана, когда вернулся домой. Всё разорено, погибли многие родные, земляки. Но жить нужно. И вместе с теми, кто пришел с фронта, строил светлое будущее.*

*Чаще стали беспокоить ветерана раны. Но не только они, но и воспоминания о той далёкой войне, которые глубокими шрамами пролегли через сердце, и которым никогда не зажить. Валентин Петрович интересуется жизнью в нашей стране, за рубежом.*

*— Жаль, что я не могу сам участвовать в преобразованиях в стране. Но,— в глазах ветерана мы замечаем искорку, — все новое очень радует меня. Значит, недаром мы сражались с врагами за свободу нашей Родины.*

*Очень жаль, что мы не можем посещать всех ветеранов, пожилых людей. Но очень хочется, чтобы как можно меньше людей чувствовали себя одинокими.*

**Татьяна УСОВА,**
**юнкор 9 "Б" класса СШ № 3.**

## *АЛЕЯ ПАМЯЦІ*

Добрая справа ніколі не забываецца. У мінулым годзе выпускнікі чацвёртай школы горада пакінулі пасля сябе алею памяці. Кожны з вучняў прынёс з лесу па аднаму, а то і па два маладых дрэўцы. Усе іх рабяты пасадзілі на тэрыторыі школьнага ўчастка. Гэтай вясной саджанцы: клёны, бярозкі, ліпы, распусцілі сваё лісце.

Прыемна зараз глядзець на тое, што зроблена рукамі вучняў. З кожным годам дрэўцы будуць цягнуцца ўсё вышэй і вышэй. А настаўнікі, малодшыя вучні, праходзячы па зялёнай алеі, кожны раз будуць успамінаць тых, хто зрабіў гэту добрую справу.

**Уладзімір КАПАЕЎ.**

## Сацыяльныя прытулкі -- прыкмета часу

Больш чым 30 сацыяльных дзіцячых прытулкаў дзейнічаюць цяпер у Беларусі. Сетка гэтых устаноў, прызначаных хоць бы на некаторы час падарыць цяпло і дабрыню дзіцяці з няўдачнай сям'і, пачала стварацца зусім нядаўна. Плануецца, што яны будуць створаны ў кожным раёне Беларусі, паўсюдна адкрыюцца і сацыяльна-педагагічныя цэнтры, якія таксама будуць дзейнічаць у сістэме Мінадукацыі. Гэтыя цэнтры прызначаны каардынаваць работу сацыяльных педагогаў і псіхолагаў у кожным канкрэтным месцы.

**БЕЛТА.**

# Аб умовах раённага спаборніцтва механізаваных атрадаў, звёнаў, механізатараў на нарыхтоўцы кармоў у 2000-м годзе

Раённы выканаўчы камітэт зацвердзіў умовы спаборніцтва механізаваных атрадаў, звёнаў, механізатараў на нарыхтоўцы кармоў, прапанаваныя прэзідыумам райкама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу, калегіяй упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама.

Раённае спаборніцтва атрадаў, індывідуальных работнікаў, занятых на нарыхтоўцы кармоў, арганізуецца з мэтай своечасовага і якаснага правядзення корманарыхтоўчых работ. Пераможцы яго вызначаюцца па найбольшаму аб'ёму выкананых работ, працэнту выканання зменных норм і даведзеных заданняў. Абавязковай умовай пры правядзенні ўсіх відаў корманарыхтоўчых работ у падвядзенні вынікаў спаборніцтва з'яўляецца выкананне зменных норм выпрацоўкі, якасць і тэрміны выканання работ, якасць нарыхтаванага корму.

Пераможцамі спаборніцтва прызнаюцца:

а) на касьбе траў – механізатары, якія скасілі найбольшую колькасць гектараў ва ўстаноўленыя рабочым планам аптымальныя тэрміны на касілках тыпу КРН-2,1, КРН-210, Е-302, КПС-5 Г;

б) на зграбанні, варушэнні сена – механізатары, якія дасягнулі найбольшай выпрацоўкі ў гектарах на агрэгатах тыпу ГВК-6, ГВЦ-3, ГВР-4,2, ГВР-630;

в) на прэсаванні сена – механізатары, якія нарыхтавалі найбольшую колькасць тон на прэспадборшчыках тыпу ПРТ-1,6, ПРФ-750, ПРФ-145.

Для пераможцаў спаборніцтва – механізатарам зацвярджаецца па аднаму прызавому месцу на кожную марку корманарыхтоўчага агрэгата з уручэннем грашовых прэмій у памеры трох мінімальных заработных плат.

На здрабненні і падборцы сянажнай і сіласнай масы на здрабняльніках тыпу КСК-100, Е-281, "Палессе" ўстаноўлены па тры прызавыя месцы па кожнаму агрэгату за найвышэйшую выпрацоўку ў тонах. Пераможцамі прызнаюцца, калі выпрацоўка на больш прадукцыйны агрэгат будзе вышэй на 10 працэнтаў ад менш прадукцыйнага. Пераможцам ўручаецца грашовая прэмія: за першае месца – у памеры пяці мінімальных зарплат, другое – чатырох мінімальных зарплат, трэцяе месца – трох мінімальных зарплат.

На нарыхтоўцы сенажу пераможцамі прызнаюцца механізаваныя атрады, нарыхтаваўшыя найбольшую колькасць тон з найменшай колькасцю затрачаных дзён на закладку сянажнай траншэі, з уручэннем грашовай прэміі ў памеры: за першае месца – 40 мінімальных зарплат, за другое – 35, за трэцяе месца – 30 мінімальных зарплат.

Вынікі спаборніцтва падводзяцца ў адпаведнасці з рабочым планам па завяршэнню корманарыхтоўчых работ.

Калектывы, якія дапусцілі вытворчы траўматызм са смяротным зыходам, пры падвядзенні вынікаў з ліку пераможцаў выключаюцца.

# Створана камісія

## па кантролю за арганізацыяй і правядзеннем выпускных экзаменаў у агульнаадукацыйных школах раёна

Грамадская камісія па кантролю за арганізацыяй і правядзеннем выпускных экзаменаў у агульнаадукацыйных школах створана пры раённым камітэце БПСМ. У яе складзе першы сакратар РК БПСМ Віктар Бурака, другі сакратар РК БПСМ Юрый Кавалёў, загадчык аддзела інфармацыі райвыканкама Ігар Кавалёў, намеснік дырэктара Цэнтра дзіцячай творчасці Алена Старавойтава.

Мэтамі і задачамі грамадскай камісіі з'яўляюцца: ажыццяўленне кантролю за арганізацыяй і правядзеннем выпускных экзаменаў у агульнаадукацыйных школах, аказанне псіхалагічнай дапамогі выпускнікам з мэтай зніжэння іх эмацыянальнай нагрузкі. Члены грамадскай камісіі маюць права: прысутнічаць на пасяджэннях экзаменацыйнай камісіі агульнаадукацыйнай школы, а таксама ў якасці назіральнікаў на выпускных экзаменах, пры разглядзе апеляцый і скаргаў; знаёміцца з асабістымі справамі выпускнікоў, заявамі і скаргамі ў экзаменацыйную камісію, адміністрацыю навучальнай установы, а таксама ўдзельнічаць у іх разглядзе; кантраляваць прадастаўленне выпускнікам магчымасці азнаямлення са сваёй пісьмовай работай; ажыццяўляць разгляд скаргаў і прапаноў грамадзян па пытаннях арганізацыі і правядзення выпускных экзаменаў.

У сваёй рабоце грамадская камісія БПСМ кіруецца дадзеным палажэннем, нарматыўнымі дакументамі і заканадаўчымі актамі. Камісія ажыццяўляе сваю дзейнасць на грамадскіх пачатках, тэрмін паўнамоцтваў да 15 ліпеня гг.

Па выніках работы грамадскай камісіі складаецца даведка, якая падпісваецца ўсімі членамі камісіі і прадастаўляецца абласному штабу "Абітурыент", кіраўніцтву аддзела адукацыі, адміністрацыі школы.

# Дапамаглі базавыя прадпрыемствы

*Прайшло зусім мала часу, як у школах прагучаў апошні званок. Вядома, у кожнага вучня гэта ўрачыстасць пакінула нейкі след у душы. Асабліва, у выпускнікоў.*

*Удвайне прыемным было гэта свята ў СШ № 1 нашага горада. Тут, дзякуючы добрым шэфам і падтрымцы райвыканкама, у дзень развітання са школай быў арганізаваны "салодкі стол" для вучняў. Не абдзелены былі ўвагай як выпускнікі, так і маленькія школьнікі, якія зрабілі першы крок у вялікую краіну ведаў. Іх віншавалі намеснік старшыні райвыканкама В. Л. Грышанаў, дырэктар школы Н. Г. Лебедзева, метадыст раённага аддзела адукацыі А. М. Перапечын, ад імя бацькоў – Н. В. Лукашэнка і інш.*

*Падвядзены вынікі навучальнага года, і кожны, як кажуць, атрымаў па заслугах: выдатнікі – пахвальныя лісты, інтэлектуалы – ганаровыя граматы, спартсмены – прызы, бацькі за добрае выхаванне дзяцей, вядома, якія заслужылі гэтага — пісьмы-падзякі.*

*А якое ж свята без песень і добрых пажаданняў? І гэтага тут было ўдосталь. І як заключэнне – меладычны званочак апавясціў аб тым, што развітанне са школай выпускнікоў будзе назаўсёды. Для тых жа, хто праз тры месяцы будзе зноў збірацца падручнікі ў школу, мелодыя званка гучала як "да сустрэчы".*

*За "салодкім сталом" пасля ўрачыстасцей вучням – ад першага да выпускнога класаў – было аб чым пагаварыць, абмеркаваць. І ўсе яны, а таксама настаўнікі і дырэктар школы Н. Г. Лебедзева, былі шчыра ўдзячны калектывам гарадскіх прадпрыемстваў – ПМК-260, аўтапарка № 8, ПМК-90, ААТ "Касцюковіцкая сельгасхімія", калгасу "Новы быт", якія паклапаціліся аб арганізацыі такога стала.*

*— Мне пашанцавала, што сустрэла адначы такіх цудоўных людзей, як Петр Васільевіч Ермашкевіч, Віктар Васільевіч Струкаў, Рыгор Мікалаевіч Елісеенка, Сяргей Іванавіч Віннікаў і Віталь Фёдаравіч Шышоў, — сказала пры сустрэчы дырэктар СШ № 1 Надзея Гаўрылаўна, — гэта кіраўнікі нашых базавых прадпрыемстваў. Разумею, калектывы, якія яны ўзначальваюць, жывуць не надта заможна. Аднак, кожную маю просьбу дапамагчы ў вырашэнні школьных праблем, паважаныя людзі не пакінулі без увагі.*

*Як бачна, паміж сярэдняй школай № 1 і базавымі прадпрыемствамі горада склаліся цесныя, сяброўскія адносіны.*

***Наталля ГАЎРЫЛАВА.***



**ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА**

***Сем гадоў назад Марта Браніславаўна Макейчык прыехала са сваім мужам і сынам у вёску Сялецкае з Прыбалтыкі. Там працавала шмат гадоў у воінскай часці. Нялёгка было адразу жанчыне змяніць спецыяльнасць, аднак давялося пайсці на жывёлагадоўчы комплекс калгаса імя Карла Маркса. Не так шмат прайшло часу, як Марта Браніславаўна навучылася ўсяму, прывыкла да жывёл, мабыць таму, што па характару яна працавіты чалавек.***

***М. Б. Макейчык набірае групу цялятак ад кароў даярак і даглядае іх. Гэта самы адказны перыяд для жывёл і для жанчыны, бо цялят усіх трэба захаваць, прывучыць да іншага рацыёну.***

***Марта Браніславаўна з адказнасцю адносіцца да сваёй справы. Стараецца. Таму і вынікі ў працы ў яе заўсёды добрыя. За красавік месяц сярэднясутачная прывага кожнага гадаванца ў яе групе склала па 517 грамаў. Па калгасу гэта самы лепшы паказчык.***

***Зараз М. Б. Макейчык абнаўляе сваю групу, набірае маленькіх цялятак.***

***На здымку: Марта Браніславаўна МАКЕЙЧЫК.***

***Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

**НИКТО НЕ ЗАБЫТ**

# ОГНЕННЫМИ ДОРОГАМИ

Небольшая тихая деревушка Мартиновка расположилась почти рядом с железной дорогой, которая манила, притягивала к себе всех, обещала что-то неизведанное, тайное. Все ребята завидовали машинисту, гордо и уверенно, как им казалось, ведущему состав от станции к станции. Многим хотелось быть на его месте. Об этом же мечтал и мальчуган с редкой и запоминающейся фамилией – Гуня.

В 1939 году мечта Николая Гуни осуществилась. Окончив Унечское ФЗУ ( фабрично-заводское училище), парень получил специальность помощника машиниста и слесаря, и определился на работу в Кричевское депо.

Но иные, дороги выпали ему – дороги войны. О том, что началась война, Н. М. Гуня узнал в Доме отдыха "Корховна" (под Новозыбковом), где он намеревался провести свой отпуск. Отдыхающие тотчас разъехались домой. Совсем другой показалась Николаю его дорога – невесёлой, затаившейся, замершей в ожидании.

Скоро пришлось пережить первую бомбёжку. Днём, когда все были заняты в шумных цехах депо, на станцию Кричев налетели вражеские бомбардировщики. Их было около двадцати. А на путях стояли эшелоны, которые везли эвакуированных. Появились убитые, раненые – война щедра на кровь и смерть.

Через несколько дней бывшие рабочие депо пешком направились в г. Козельск, где размещался призывной пункт Белорусского военного округа. Оттуда новобранцы были направлены в Елец, в 23-й запасной полк связи, а затем – поездом в Башкирию, где связисты постигали секреты своей военной специальности. "Связь – это нерв Армии", — часто повторяли командиры, напоминая о важности связи.

Телефонный кабель часто перебивали разрывы снарядов, мин, проходившая техника. Связисты находились под напряжением. В любую минуту дня и ночи нужно было бежать или ползти по открытой простреливаемой местности, прокладывая линию или устраняя порывы. Отдыхать приходилось очень мало.

Николаю Михайловичу пришлось служить в войсках связи на передовой линии фронта в 194-й Речицкой краснознаменной стрелковой дивизии сначала рядовым, потом – командиром отделения и заместителем командира взвода связи.

Самым памятным эпизодом из своей армейской жизни Н. М. Гуня считал эпизод, связанный с форсированием реки Угры. Телефонно-кабельная линия связи, проложенная по льду на ту сторону реки, часто повреждалась. Весь лёд был в воронках от снарядов, мин, которых фашисты не жалели. При появлении на льду связиста или другого солдата, перебегавших на ту сторону реки, враг с флангов открывал сильный огонь. Связь внезапно обрывалась. Посланный на устранение связист был убит на льду. Но связь требовали и ждали. Командир взвода приказал Гуне проложить новый кабель на ту сторону реки. Катушка с новым, без соединений, кабелем осталась в окопе, а конец его завязали у пояса связиста – и он побежал по льду, несмотря на свист пуль и разрывы снарядов. Виляя между воронками, он добежал уже до середины реки, когда кабель за что-то зацепился (это был убитый связист). Гуня стал натягивать кабель, отходя в сторону, и вдруг оказался в полынье, в ледяной воде. Сразу же его потянуло ко дну из-за ватного обмундирования и валенок. Но, собрав все силы, солдат выбрался на лёд. И скоро уже докладывал в окопе, что приказ выполнен – связь восстановлена.

Были на фронтовых дорогах и памятные встречи. Прибыв в начале войны в Козельск, Николай Михайлович встретил... отца. Участник империалистической, гражданской, а теперь и Великой Отечественной войн, старший Гуня дал строгий наказ сыну быть преданным бойцом, защищать Родину, не жалея ни сил, ни жизни. И сын всю войну помнил слова отца и служил честно, преданно.

Были и другие встречи. Возвращаясь после выполнения боевого задания в расположение своего взвода, Гуня услышал, что его кто-то окликнул по фамилии и, повернувшись, узнал своего учителя, классного руководителя Василия Тимоновича Бохана, прибывшего на передовую с новой частью. Бывший ученик и учитель обменялись полевыми адресами, писали потом письма, пока через год не получил Николай Гуня весть от командира полка, где воевал учитель, с сообщением о его гибели.

Примечательно то, что вместе с Николаем Гуней воевал почти всё время, в одной роте, его земляк – Семён Михайлович Авхутский, уроженец деревни Фроловка, живущий и ныне в ней. Земляки дружили, вместе оказывались на боевых заданиях. Вместе, в один день, они получили награды – ордена Красного Знамени.

Огненными дорогами войны Н. М. Гуне пришлось пройти с боями по многим городам и сёлам России и Белоруссии. Военный путь закончился в Восточной Пруссии, где Гуня был тяжело ранен в ногу.

Нет уже рядом с нами этого замечательного человека. О нём я узнала в школьном музее, где ветерану посвящен стенд "Огненные версты Н. М. Гуни", и на стенде – слова-завещание быть достойными павших героев, кто, не щадя своей жизни, боролся с врагом, защищая Отчизну.

**Евгения СИЛКИНА, ученица 8 класса Селецковской СШ.**

